Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 790
Адрас для карэспандэнцыі: 220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 29 верасня 1998 г. № 103 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Патрыярх быў непадалёк ад Курапатаў

**Падчас знаходжання ў Мінску патрыярх Алексій II блаславіў праект капліцы, якая будзе пабудаваная ў Курапатах.**

У Курапацкі лес патрыярх не заязджаў, але быў побач — у мікраёне Зялёны Луг на вуліцы Гамарніка. Ён завітаў сюды, каб асвяціць камень, дзе будзе ўзводзіцца царква. Па прапанове настаяцеля прыхода айца Уладзіміра патрыярх блаславіў таксама і праект капліцы, якую прыхаджане хочуць пабудаваць у Курапатах. Яна будзе мець выразныя рысы беларускай культавай архітэктуры. Айцец Уладзімір распавёў карэспандэнту НАВІНАЎ, што ягоны прыход пастаянна паміnae на богаслужэннях нявінных ахвяраў рэпрэсіяў, забітых у Курапатах. Капліца будзе ўзведзеная на тым месцы, дзе ўстаноўлены праваслаўны крыж. Цяпер вырашаецца пытанне з мясцовымі ўладамі пра выдзяленне зямельнага ўчастка. Прыхаджане спадзяюцца, што блаславленне патрыярха Алексія дапаможа хутчэй дамовіцца з уладамі.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**



*Народ гуляе.*

## Пастухоў у Штатах

**Былы суддзя Канстытуцыйнага суда Міхаіл Пастухоў і адвакат Вера Страмкоўская па запрашэнні Міжнароднай лігі правоў чалавека знаходзяцца ў ЗША.**

Яны мелі сустрэчы ў Дзярждэпартаменце і ў Кангрэсе. У мінулую пятніцу Міхаіл Пастухоў выступіў з дакладам аб стане незалежных СМІ ў Беларусі перад наведвальнікамі адзінага ў свеце музея навінаў. Гэты выступ напрамую перадаваўся па камп'ютэрнай сетцы Інтэрнэт.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## «Пагарэлі» на банкетах

**Лідскім раёнам цяпер кіруе новы чалавек, стары старшыня райвыканкама А.Блюднік быў звольнены з пасады за банкеты. Дарэчы, ён — прыхільнік палітыкі прэзідэнта, дэпутат Нацыянальнага сходу.**

Кантрольныя органы высветлілі, што ў апошнія два гады раённае начальства неадназова злоўжывала службовым становішчам. У сталоўках грамадскага харчавання наладжваліся банкеты з гарэлкай, у тым ліку і ў рабочы час. Начальства звычайна за гарэлку і закуску не плаціла. Грошы за выпітае і з'едзенае яно потым кампенсавала грамадскаму харчаванню за кошт калгасаў раёна.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## З гарматы па вераб'ях

**Ужо не першы месяц па ўсёй краіне праводзіцца шырокамаштабная аперацыя пад кодавай назвай «Аграрнік».**

Штодзень брыгады з райаддзелаў міліцыі выязджаюць у рэйды лавіць раскрадальнікаў ураджаю. Але ці каштуе справа свечак, а дакладней кажучы, патрачанага бензіну?

Калі меркаваць па выніках аперацыі «Аграрнік» у Хойніцкім раёне Гомельшчыны, дык для дзяржавы было б у дзесяткі разоў больш выгадна аперацыю не праводзіць. Лічыце самі. Штодзень на 50 аўтамашынах у рэйды на лоўлю «несуна» выязджаюць практычна ўсе міліцыянты раёна. Але ў выніку гэтых намаганняў удалося не дапусціць матэрыяльных стратаў на агульную суму ўсяго ў 12 мільёнаў 100 тысяч рублёў і вярнуць... адну тону зерня!

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Антановіч незадаволены місіяй АБСЕ

Нягледзячы на тое, што міністр замежных справаў Беларусі Іван Антановіч, як і многія іншыя прадстаўнікі рэжыму, з'яўляецца «невыязным», на сесію Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў яго пусцілі.

Як паведамляе беларускае МЗС, у штаб-кватэры ААН І.Антановіч сустрэўся са сваім польскім калегам Браніславам Герэмэкам, які сёлета з'яўляецца старшынёю АБСЕ. Падчас сустрэчы Антановіч, нібыта строгі настаўнік, зрабіў Герэмэку шэраг заўваг наконт работы кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Мінску. Напрыклад, Антановічу не спадабаўся даклад аб сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. *«Дадзеныя акцыі групы не спрыяюць устанаўленню клімата ўзаемаразумення паміж АБСЕ і Рэспублікай Беларусь»*, — такую вымову Б.Герэмэку зрабіў беларускі міністр.

Акрамя таго, Антановіч пагутарыў з іншымі афіцыйнымі асобамі некаторых краінаў — у прыватнасці, з расійскім міністрам Ігарам Івановым. Сярод іншых пытанняў, былі абмеркаваныя перспектывы развіцця саюза Беларусі і Расіі. Антановіч запрасіў Іванова наведаць Беларусь з афіцыйным візітам і атрымаў ад расійскага саюзніка згоду.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## «У такім перапісе ўдзельнічаць не будзем»

### *Пакет дакументаў знаходзіцца на зацверджанні ў прэзідэнта*

Наша публікацыя пра перапіс насельніцтва выклікала шмат званкоў ад чытачоў. Усіх хвалявала адна праблема: чаму замест «роднай мовы» ў перапісных лістах стаіць пытанне: *«На якой мове вы звычайна размаўляеце дома»*. Чытачы лічаць недапушчальнай такую падмену хаця б таму, што гэта два абсалютна розныя пытанні. *«У перапісным лісце абавязкова павінна быць пытанне пра родную мову, інакш мы адмовімся ўдзельнічаць у такім перапісе»*, — так заяўлялі многія з тых, хто званіў у рэдакцыю.

Нагадаем, што перапіс насельніцтва будзе праводзіцца з 16 па 23 лютага 1999 г. Пакет дакументаў знаходзіцца цяпер на зацверджанні ў прэзідэнта А.Лукашэнкі. Паводле папярэдняга перапісу, праведзенага ў 1989 г., роднай мовай назвалі беларускую 65,6 працэнта жыхароў нашай краіны, а 77,8 працэнта адказалі, што свабодна ёю валодаюць. Такія дадзеныя, відаць, не задавальняюць чыноўнікаў. На гэты раз яны не хочуць пытацца ў народа пра родную мову. Што за гэтым стаіць? Праблему аналізуе наш аўтар — доктар філасофскіх навук Вячаслаў Оргіш, ягоны артыкул «Момант ісціны» друкуецца на 2-й старонцы.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## *Візіты*

***Учора пачаўся двухдзённы візіт прэм'ер-міністра Беларусі Сяргея Лінга на Украіну. У праграме візіту — перамовы з прэм'ер-міністрам Украіны Валерыем Пуставойценкам, а таксама з кіраўнікамі шэрагу міністэрстваў і ведамстваў. Апроч таго, прэм'еры будуць занятыя падрыхтоўкай сустрэчы прэзідэнтаў Беларусі і Украіны, што мае адбыцца ў кастрычніку ў Беларусі.***

## *Сустрэчы*

***У Гомелі 1—3 кастрычніка пройдзе сустрэча прадстаўнікоў беларускіх і расійскіх гарадоў. Чакаецца, што ў сустрэчы возьмуць удзел дэлегацыі 42 беларускіх і 46 расійскіх гарадоў. Па задуме арганізатараў, асноўная ўвага будзе нададзеная абмеркаванню пытанняў дзелавога і культурнага супрацоўніцтва.***

## *Дабрачыннасць*

***Амаль 100 тысяч долараў ахвяравала дабрачынная арганізацыя з Рыма на падтрымку інтэрната для дзяцей-сіротаў у Мсціславе, райцэнтры Магілёўскай вобласці.***

## *Рэпрэсіі*

***Дэпутат Уладзімір Кудзінаў, які адбывае 7-гадовае пакаранне ў мінскай калоніі, на мінулым тыдні быў змешчаны ў карцэр — за тое, што спрабаваў перадаць на волю ліст-зварот да беларускай моладзі з заклікам змагацца за дэмакратыю.***

## За сем бутэлек гарэлкі – аўтамабіль

**У жыхара Гомельскай вобласці, які вёз у Расію сем бутэлек гарэлкі, сканфіскавалі аўтамабіль.**

Гэты факт прагучаў на пленуме Вярхоўнага суда Беларусі, дзе аналізавалася практыка прымянення суддзямі нормаў прэзідэнцкага дэкрэта аб абароне спажывецкага рынку.

*БелаПАН*



# У аптэках – дэфіцыт

### *Таблеткі таксама па нормах*



**У аптэках Беларусі зноў пачалі «эканоміць» лекі: продаж прэпаратаў, на якія не патрэбен рэцэпт, абмежаваны памерамі аднаго курса лячэння.**

*«Гэтае правіла было усталяванае даўно, мы толькі зноў пачалі яго прытрымлівацца. Таму што пасля фінансавага крызісу ў Расіі зменшыўся асартымент і запас лекавых прэпаратаў у нашых аптэках»*, — кажа дырэктар рэспубліканскага аб'яднання «Фармацыя» Марыя Шалаева. Па яе словах, цяперашняга запасу лекаў у дзяржаўных аптэках хопіць яшчэ на 50 дзён, а з новымі пастаўкамі цяпер складана. *«Нашы пастаўшчыкі зараз не хочуць працаваць не тое што з беларускімі, але і з расійскімі рублямі»*, — зазначыла дырэктар «Фармацыі». Яна запэўніла, што робіцца ўсё магчымае для папаўнення запасаў. Акрамя таго, М.Шалаева лічыць, што трэба абмяжаваць вываз айчынных прэпаратаў. *«Свае прапановы мы накіравалі, чакаем дэкрэта прэзідэнта»*, — кажа яна.

Усяго ў краіне працуюць 1.024 дзяржаўныя аптэкі і аптэчныя кіёскі. Яны рэалізуюць адносна недарагую прадукцыю, але не могуць прапанаваць вялікі асартымент. Запас лекаў у прыватных аптэках яшчэ меншы, чым у дзяржаўных, паколькі фінансавы крызіс перш за ўсё ўдарыў менавіта па прыватным бізнесе.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Далоў дырэктара!

**Стыхійная акцыя пратэсту прайшла ў Брэсце.**

Работнікі брэсцкай абласной рыбнай базы ў мінулы чацвер выйшлі на вуліцу з патрабаваннямі звольніць свайго дырэктара Анатоля Марашчука. Людзі выказвалі незадаволенасць ...онымі метадамі кіравання. Бастуючыя сцвярджалі, што дырэктар прымушае пісаць іх заявы аб звальненні і незаслужана карае. Апрача таго, апошнім часам рыбная база ўваходзіць у лік адстаючых прадпрыемстваў. Анатоль Марашчук за перыяд свайго кіраўніцтва так і не змог змяніць становішча да лепшага. Прадстаўнікі ўладаў і «Дзяржрыбгаса», якія прыбылі на базу, паабяцалі рабочым разабрацца ў сітуацыі і прыняць меры.

*БелаПАН*

## Навіны ад БТ

**Беларускае тэлебачанне вырашыла павялічыць колькасць інфармацыйных выпускаў.**

З панядзелка праграмы навінаў сталі выходзіць у тэлеэфір кожныя дзве гадзіны. Цяпер гледачы будуць часцей бачыць на сваіх экранах галоўную беларускую тэлезорку, рэпартажы з калгасаў і іншыя «важныя» навіны.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Закапалі грошы ў «зоне»

**Спробы атрымаць чыстую прадукцыю на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях Гомельскай вобласці поспеху не прынеслі.**

Больш за 43 мільярды рублёў было зрасходавана з 1995 года ў Гомельскай вобласці на перазалужэнне сенажацяў і пашаў, што размешчаныя на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях, для забеспячэння жывёлы чыстымі кармамі. Як сцвярджалі спецыялісты, гэты агратэхнічны прыём зніжае пераход радыенуклідаў у кармы ў 8—10 разоў, адначасова павялічвае ўдвая прадуктыўнасць угоддзяў. Дадзеныя работы праводзіліся ў 412 населеных пунктах 18 раёнаў вобласці, перш за ўсё, у прыватным сектары, для якога асабліва актуальная праблема атрымання чыстых малочных прадуктаў.

Аднак, як паказаў час, прынятыя меры не прынеслі поспеху: у 244 населеных пунктах рэгіструюцца пробы малака з перавышэннем дапушчальнай колькасці радыенуклідаў.

*БелаПАН*

**КАДРЫ**



# Натарыусы перад судом

**У судзе Мінскага раёна на мінулым тыдні пачаўся працэс, які пакуль што не мае прэцэдэнтаў.**

У якасці адказчыка выступае прыватны натарыус Святлана Казлоўская, з яе спаганяюць «беспадстаўна набытую дзяржпошліну». Іск падала пракуратура. Але фактычным ініцыятарам справы з'яўляецца А.Лукашэнка, які 27 траўня 1998 г. выдаў указ аб «вяртанні» гэтай самай дзяржпошліны. Нягледзячы на тое, што прыватныя натарыусы дзейнічалі ў адпаведнасці з усімі нарматыўнымі актамі, дадзеным указам Лукашэнка загадаў стварыць спецыяльную міжведамасную камісію і «заднім числом», на падставе новых нарматываў, падлічыць, колькі грошай трэба спагнаць з натарыусаў за іхнюю дзейнасць ажно з 1995 года. Шырокавядомая аксіёма права, што закон (а тым больш падзаконны акт) не можа мець адваротнай сілы, Лукашэнку, натуральна, не збянтэжыла. У тым жа ўказе ён прадпісаў прыватным натарыусам узяць абавязацельствы па *«вяртанні ў бюджэт беспадстаўна набытай дзяржпошліны»*; у адносінах жа тых, хто адмаўляецца гэта зрабіць, раённыя пракуроры павінны падаваць у суды адпаведныя іскі.

У Мінску з 65 прыватных натарыусаў абавязацельствы падпісалі толькі 9. Таму не дзіва, што на працэс С.Казлоўскай прыйшла прыкладна палова ад агульнай колькасці сталічных прыватных натарыусаў — больш за тры дзесяткі чалавек: Казлоўская — толькі «першая ластаўка», для ўсіх астатніх падобныя суды маюць адбыцца ў недалёкай будучыні. Прычым калі з Казлоўскай хочуць спагнаць 97 мільёнаў рублёў, дык у некаторых гэтыя сумы складаюць мільярд рублёў і больш.

У сваёй прамове С.Казлоўская пералічыла свае расходы на падаткі, арэнду офіса, набыццё тэхнічнага абсталявання і інш. і падкрэсліла, што «практыка адлічэнняў у даход дзяржавы была агульнапрынятай, зацверджанай адпаведнаю пастановаю Саўміна ў 1994 годзе. Я, як і ўсе прыватныя натарыусы, дзейнічала на падставе нарматыўных актаў дзяржаўных органаў».

Юрыст Юрый Плахін, які прадстаўляў на працэсе Беларускую натарыяльную палату, папрасіў далучыць да матэрыялаў справы водгукі вядомых юрыстаў пра прыватны натарыят — у тым ліку і тых, хто займае высокія пасады. Намеснікі міністра юстыцыі, генеральнага пракурора, старшыні Вярхоўнага суда давалі пра прыватны натарыят выключна станоўчыя водгукі — праўда, гэта было тады, калі ўказа Лукашэнкі яшчэ ў прыродзе не існавала.

Акрамя таго, Ю.Плахін заявіў хадайніцтва, каб у якасці суадказчыкаў на працэс былі прыцягнутыя Савет міністраў, мінюст, мінфін і Дзяржаўны падатковы камітэт — на той падставе, што *«нарматыўныя акты наконт прыватнага натарыята, якія выдаваліся гэтымі органамі, прызнаныя несапраўднымі»*. Суд без усялякай матывацыі адхіліў хадайніцтва.

Па маім суб'ектыўным уражанні, прадстаўнікі пракуратуры і падатковай інспекцыі адчувалі сябе на працэсе ніякавата (відаць, яны самі разумеюць, чаго вартая гэтая справа з прававога, ды і проста з чалавечага, пункту гледжання). Таксама здалося, што суддзя Лявон Мароз добрасумленна спрабуе разабрацца ў справе. Але, на жаль, мы ведаем, што добрасумленнасць не заўсёды, мякка кажучы, з'яўляецца для суддзяў вырашальным фактарам — загад зверху важыць больш. А ўвогуле, пагледзім. Пра вынікі працэсу мы паведамім.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# Момант ісціны

Сацыялагічныя даследаванні выяўляюць трывожную карціну заняпаду беларускай мовы. У верасні гэтага года Інстытут сацыялогіі Акадэміі навук пры ўдзеле сацыялагічнай лабараторыі Уладзіміра Ціханава правёў нацыянальнае апытанне насельніцтва краіны. Адно з пытанняў гучала так: **«Якой мовай вы карыстаецеся ў зносінах?»** Вось размеркаванне адказаў (у працэнтах):

| | беларускай | рускай | іншай | беларускай і рускай |
|---|---|---|---|---|
| У сям'і | 16,6 | 66,9 | 1,9 | 14,6 |
| З калегамі | 12,3 | 74,5 | 0,7 | 12,5 |
| З прыяцелямі, сябрамі | 13,7 | 69,8 | 1,2 | 15,3 |
| З незнаёмымі людзьмі | 8,6 | 81,6 | 0,2 | 9,6 |
| У мясцовых органах улады | 9,1 | 81,2 | 0,4 | 9,3 |

Прыведзеныя лічбы кажуць самі за сябе. Мова 13% насельніцтва (згодна з перапісам 1989 г. менавіта такі працэнт рускіх пражывае ў Беларусі) гучыць у 6 разоў часцей мовы карэннай беларускай нацыянальнасці, якая складае, між іншым, больш за 3/4 усіх жыхароў краіны (78%).

Відавочна, што руская мова адыгрывае ў Беларусі ролю своеасаблівага лінгвістычнага агрэсара, яна захапіла культурную прастору краіны і не дае беларускай мове наблізіцца да тытульнага этнаса. У гэтым сапраўдная сутнасць моўнай праблемы ў Беларусі.

**Вячаслаў ОРГІШ,**
***доктар філасофскіх навук***



Перапіс насельніцтва — гэта не проста статыстычная акцыя, якая дае дзяржаве магчымасць удакладніць колькасныя паказчыкі дэмаграфічнага становішча ў краіне. Нацыянальны перапіс — гэта важная гістарычная падзея, падчас якой народ мае унікальную магчымасць усвядоміць і адчуць сябе як непаўторную нацыянальную лучнасць з адпаведнымі этнічнымі ды культурнымі рысамі, з толькі яму ўласцівымі каштоўнасцямі чалавечага існавання.

### Галоўнае пытанне

Сутыкаючыся з пытаннямі перапіснога ліста, чалавек перастае быць толькі аб'ектам перапісу, бо ў гэты час ён павінен адказаць для сябе і для грамадства, хто ён, адкуль паходзяць яго карані, дзе яго малая ды вялікая радзіма. Перапіс — гэта, калі хочаце, момант вызначэння ісціны персанальнага чалавечага існавання, своеасаблівае паўторнае нараджэнне грамадзяніна ў абліччы нацыянальнага духу.

Адным словам, перапіс ставіць канкрэтнага чалавека ў сітуацыю своеасаблівага экзістэнцыяльнага выбару, калі ён сам-насам са сваім сумленнем павінен вызначыцца адносна сваёй нацыянальнай прыналежнасці і адпаведна прыняць той ці іншы нацыянальны лёс.

Цэнтральным момантам гэтага вызначэння, нервам вырашэння пытання аб нацыянальным прытулку з'яўляецца моўнае пытанне. Мова — гэта, калі хочаце, гарызонт нацыянальнага быцця. Знікае мова — знікае і гэты гарызонт. Інакш кажучы, мова не толькі інструмент зносінаў паміж людзьмі, яна надае іх жыццёваму асяроддзю канкрэтную выразнасць і пазнавальнасць. Зінікні мова — знікне і жыццёвая прастора, лёс народа.

Знакаміты філосаф XX стагоддзя Людзвіг Вітгенштэйн меў рацыю, калі казаў, што *«межы маёй мовы — гэта адначасова межы майго свету»*. Калі нехта губляе сваю мову, то разам з тым ён губляе свет свайго існавання, страчвае сваю нацыянальную індывідуальнасць. Зразумела, што фізічна чалавек пры гэтым нікуды не знікае. Ён працягвае жыць і надалей, але гэта ўжо жыццё ў чужым моўным асяроддзі, і адпаведна ў чужым свеце. Таму згубіць сваю мову — усё роўна, што згубіць сваю радзіму, здрадзіць яе лёсу.

Відаць, камусьці вельмі хочацца, каб з беларусамі адбылося менавіта так, каб яны забыліся на сваю родную мову, масава здрадзілі сваёй Бацькаўшчыне. Інакш як зразумець тое, што ў перапісных лістах адсутнічае моўнае пытанне. Разлік відавочны. Нават падчас перапісу нашым людзям не трэба нагадваць, хто яны такія, нават на паўгадзіны нашым грамадзянам не трэба даваць адчуць, што яны маюць гонар беларусамі звацца. Такім чынам, хутчэй за ўсё адсутнасць у перапісных анкетах моўнага пытання ёсць недахоп, спланаваны загадзя.

### Вытокі хваробы

Яшчэ ў другой палове XVIII стагоддзя, калі Расійская імперыя анексавала беларускія землі, царскія ўлады пачалі праводзіць палітыку актыўнай русіфікацыі. Рабілася ўсё, каб ператварыць нашу краіну ў культурную ды дзяржаўную частку «адзінай вялікай Расіі», у так званы «Северо-Западный край».

Пасля падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе імператрыца Кацярына ІІ распаўсюдзіла патаемны загад, у якім ад сваіх прадстаўнікоў патрабавала дамагацца, каб між Беларуссю і Расіяй *«исчезла грань инородия, и чтобы эти древние просторы русские сделались русскими не одним только именем, но душою и сердцем»*. Адпаведна наша мова, звычкі, культурныя традыцыі пераследваліся паўсюдна. Тых, хто супраціўляўся русіфікацыі (а такіх было абсалютная большасць), пераследвалі не толькі палітычна, але і эканамічна. Тых жа, хто пагаджаўся на ўмовы царызму, заахвочвалі і маральна, і матэрыяльна. Паступова з ліку прыхільнікаў русіфікацыі сфарміравалася грамадска-палітычная плынь, якая атрымала назоў «западнорусизма». Па сутнасці, носьбіты і прадстаўнікі гэтай ідэалогіі ўтварылі ў нашай краіне «пятую калону», зрабіліся памагатымі тых, хто руйнаваў нашу Айчыну, знішчаў нашу культуру.

У выніку дзейнасці антыбеларускіх сіл быў закрыты Віленскі універсітэт, ліквідавана Унія ў 1839 г., спынена дзеянне Статута ВКЛ у 1840 годзе, а замест яго навязаны агульнарасійскія законы. Актыўныя прыхільнікі «вялікарускай» ідэі ўтварылі сакрэтны «Западный комитет». Гэта яму была дадзеная мэта *«прировнять западные губернии, от Польши присоединенные, во всех отношениях к великорусским губерниям»*.

Вось адкуль бяруць пачатак спробы задушыць беларушчыну, пазбавіць беларусаў сваёй мовы, а разам з ёй і нацыянальнай годнасці. Таму калі сёння ў перапісны ліст не ўключаюць пытанне аб стаўленні да роднай мовы, не верце таму, хто кажа, што гэта выпадкова. Палітычны разлік арганізатараў перапісу відавочны. Падмяняючы пытанне аб роднай мове пытаннем аб мове зносінаў у сямейным побыце, яны хацелі б такім шляхам сфабрыкаваць аргумент на карысць таго, быццам руская мова цалкам законна дамінуе ў інфармацыйна-культурнай прасторы краіны, бо загадзя вядома, што ў бытавых зносінах яна ўжываецца часцей за беларускую. Калі ж спытаць у беларусаў, якую мову яны лічаць роднай, карціна будзе зусім іншай, не на карысць русіфікатараў. А ім жа вельмі хочацца даказаць, што насельніцтва краіны жадае чытаць, пісаць і размаўляць выключна па-руску, таму беларускую мову варта і надалей трымаць «у чорным целе». Інакш кажучы, дзяржаўным прыхільнікам рускамоўя вельмі карціць давесці да лагічнага завяршэння брудную справу, аб якой пісала згаданая Кацярына II.

У святле сказанага застаецца толькі дадаць — нацыянальны перапіс насельніцтва ёсць справа дзяржаўная, і як такая яна цалкам накіроўваецца дзеючымі ўладамі, якія і вызначаюць кола пытанняў, што ўваходзяць у апытальны ліст. Як гаворыцца, каментары залішнія.

Што тычыцца беларускай грамадскасці, то калі яе сапраўды хвалюе ўласны нацыянальны лёс, ёй трэба як мага хутчэй зразумець, што моўнае пытанне ёсць справа не толькі нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі, а тычыцца ўсіх, хто па-сапраўднаму жадае ўстойлівага нацыянальнага існавання. Але найперш гэта клопат беларускіх эліт, прадстаўляючых увесь спектр беларускага грамадства. Пакуль яны не адчуюць і не зразумеюць небяспеку страты моўнай ідэнтычнасці і не ўздымуць народ на моўнае адраджэнне, хвароба будзе паглыбляцца і пашырацца. Сітуацыя з пытаннем аб роднай мове ў перапісных лістах — толькі адна з праяваў недастатковага ўсведамлення крызісу нашага нацыянальнага існавання.

# Эра Коля скончылася

## *У Германіі — змена ўлады*



**У нядзелю на агульнанацыянальных выбарах у Германіі перамагла сацыял-дэмакратычная партыя на чале з Герхардам Шродэрам *(на здымку)*.**

Хрысціянска-дэмакратычны саюз Гельмута Коля адстаў ад сацыял-дэмакратаў больш чым на 6 працэнтаў. Такім чынам скончыўся беспрэцэдэнтны 16-гадовы тэрмін канцлерства Гельмута Коля. Бліжэйшыя чатыры гады канцлерам Германіі будзе Герхард Шродэр.

Сацыял-дэмакраты набралі на выбарах больш за 41% галасоў, а хрысціянскія дэмакраты — толькі 35%. Гельмут Коль цалкам узяў на сябе адказнасць за паразу на выбарах і падаў у адстаўку з пасады старшыні Хрысціянска-дэмакратычнага саюза.

Герхард Шродер абвясціў пра «канец эры Коля» і заявіў, што вынікі выбараў сведчаць аб змене пакаленняў у Германіі. Шродэру цяпер 54 гады, і яго часта параўноўваюць з брытанскім прэм'ер-міністрам Тоні Блэрам.

Галоўная праблема, з якой адразу давядзецца сутыкнуцца новаму канцлеру, — гэта беспрацоўе. Афіцыйна ў 82-мільённай Германіі 4 мільёны беспрацоўных, а згодна неафіцыйных падлікаў, болей за 7 мільёнаў жыхароў краіны шукаюць працу. Аналітыкі адзначаюць, што такога ў Германіі не было з часоў Другой сусветнай вайны. Натуральна, што Шродэр абяцае скараціць колькасць беспрацоўных, а таксама зрабіць больш жорсткімі ўмовы выплаты дапамогаў па беспрацоўі. Сярод іншых праектаў новага канцлера — зніжэнне мінімальнай сумы падатку, але ў той жа час плануецца ўвядзенне новага падатку на звышвялікія даходы.

Чакаюцца змены і ў галіне знешняй палітыкі Германіі. У часы Гельмута Коля адным з асноўных знешнепалітычных партнёраў Германіі была Расія. Гельмут Коль таксама горача падтрымліваў уваходжанне цэнтральнаеўрапейскіх краінаў у *NATO* і ў Еўрапейскі саюз. Нямецкія сацыял-дэмакраты даволі стрымана ставяцца да ідэі пашырэння *NATO* і Еўрапейскага саюза на Усход.

Інфармацыйныя агенцтвы свету, паведамляючы пра вынікі выбараў у Германіі, узгадваюць цікавы эпізод, як у 1982 годзе даволі малады дэпутат бундэстага Герхард Шродэр, будучы на добрым падпітку, пачаў ламіцца ў сталёвую браму афіцыйнай рэзідэнцыі канцлера Германіі (у той час гэтую пасаду ўжо займаў Гельмут Коль). «Упусціце мяне сюды!» — крычаў Шродэр. З таго часу прайшло 16 гадоў. Шродэр змяніў Коля на пасадзе кіраўніка Германіі. У хуткім часе ён пераедзе ў тую самую рэзідэнцыю.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

*Что пишут?*

# Беларусь в зеркале российской прессы

**РОССИЙСКИЕ** газеты пишут, что в Беларуси в скором времени может быть введена карточная система.

Газета **«Интерфакс-АиФ»** считает, что *«власти Беларуси чрезвычайно рады, что изданные еще в советские времена «Нормы отпуска продовольственных товаров» не были отменены, и что их можно применить на всю катушку»*. Газета отмечает, что, помимо продовольственных, более 100 видов промышленных товаров продается отныне в магазинах Минска по определенным нормам. С ограничениями уже ведется торговля некоторыми видами строительных материалов, тканей, белья, обуви, а также товарами культурного и хозяйственного назначения. Под особый контроль попали даже музыкальные инструменты, галантерейные товары, косметика отечественного производства.

В случае нарушения директив президента у владельцев магазинов должны отбираться лицензии, а сами они будут привлекаться к административной (штраф в размере от 50 до 100 минимальных зарплат) и даже уголовной ответственности. Правда, сроки уголовного наказания декретом не определены.

Пытаясь проконтролировать выполнение своего декрета, президент *«два воскресенья подряд посещал столичные базары, после чего сделал вывод: на рынках товара завались!»*, — пишет **«Комсомольская правда»**.

### Стоп! Что везешь?

Газета **«Русский телеграф»**, комментируя декрет Лукашенко «О неотложных мерах по защите потребительского рынка», сообщает, что согласно декрету, граждане, вывозящие продукты питания за пределы Беларуси, могут получить срок до двух лет лишения свободы за спекуляцию. Кроме того, А.Лукашенко на специальном заседании с руководством правительства и администрации президента поручил куратору силовых министерств В.Шейману ужесточить наказания. Обращаясь к нему, глава государства сказал: *«Если вы не предложите людей, которые должны попасть под следствие, значит, вы не работаете»*, — отмечает «Русский телеграф».

**«Известия»** пишут, что в среднем белорусская милиция и таможенники задерживают около 300 «челноков» в сутки. *«Сотрудники милиции дежурят по 12 часов в сутки. Людей, естественно, не хватает, поэтому к работе привлекаются и сотрудники уголовного розыска»*. Изымаемое продовольствие зачастую негде хранить. Забиты все холодильники, продукты портятся, поскольку для реализации их в торговле необходимо оформить множество бумаг.

Газета **«Комсомольская правда»** считает, что А.Лукашенко *«не желает россиянам голодной смерти. Александр Григорьевич готов помочь старшему брату, но лично!»*. По мнению белорусского президента, *«несанкционированного вывоза товаров за пределы страны быть не должно. Надо комплектовать эшелоны, автомобили и вывозить централизованно. Продавать Москве, Ленинграду, Смоленску. Если русский человек попал в беду, ему нужно помочь»*.

### Аграрная программа

**«Независимая газета»** сообщает о сельскохозяйственных указаниях белорусского президента. В частности, А.Лукашенко поставил перед министерством сельского хозяйства и продовольствия задачу загрузить к 2000 г. на полную мощность все животноводческие комплексы и птицефабрики. В программе также содержатся требования по увеличению численности дойного стада коров на 10% в год.

*«Получив команду увеличить численность дойного стада на 10% в год, специалисты иронично заулыбались*, — пишет «НГ». — *Чтобы вырастить корову, надо как минимум два года. Сделать же это за несколько месяцев практически невозможно. Но президентские команды осуждать и даже обсуждать не принято, тем более что сам глава государства заканчивал сельхозакадемию и руководил совхозом»*.

Для контроля за выполнением программы А.Лукашенко совершает поездки по полям и фермам, беседует с народом. Однако, по мнению «Независимой газеты», *«окружение президента действует по старым партийным стандартам. Господин Лукашенко направляется, как правило, туда, где есть крепкий хозяин и теплится экономическая деятельность. Очевидно, такой метод выбора помогает ему увериться в правильности своего курса»*.

Многие независимые источники отмечают, что над белорусской деревней нависла угроза банкротства. В Беларуси насчитывается около 3 тысяч колхозов и совхозов, но только 50 или 60 из них в состоянии избежать финансового краха. Эту информацию подтвердил министр сельского хозяйства и продовольствия И.Шаколо.

Изношенность и техническая отсталость машинного парка республики является еще одной большой проблемой сельского хозяйства. Покупать же дорогостоящую технику могут только лишь единичные хозяйства. А.Лукашенко предложил довольно-таки необычную форму помощи техникой селу: промышленные предприятия обязаны перечислить деньги в специальный фонд с таким расчетом, чтобы на каждые четыре колхоза был приобретен один зарубежный комбайн. Однако этим поборы с промышленности не ограничиваются. Предприятия также облагаются денежным налогом для премирования победителей и т.д.

### На границе с Польшей

Газета **«Сегодня»** пишет, что в последнее время между погранслужбами Польши и Беларуси постоянно возникают конфликты. Дело в том, что основной маршрут «великого нелегального пути» проходит через Польшу. Группы афроазиатов практически беспрепятственно пересекают территорию Польши и переправляются в Германию. За последнее время арестовано 500 иностранцев, намеревающихся незаконно перейти границу, у них изъяты большие суммы в валюте и наркотики. Удалось задержать и двух главарей, которые контролировали деятельность незаконного бизнеса. После каждого такого случая белорусский и польский МИДы получают дипломатические ноты с обвинениями в недостаточном контроле за ситуацией на внешних рубежах. Польская сторона на все запросы немцев ссылается на упущения с белорусской стороны и одновременно ставит вопрос перед правительством Германии о выделении финансовых средств на обустройство границы. По некоторым сведениям, речь идет о 15 млн. немецких марок.

# Лукавые цифры

**Константин СКУРАТОВИЧ**

Интересная штука — белорусская статистика. Взять, например, такой показатель, как официальная безработица. По сообщению Минстата, она с начала года сократилась на 21 тысячу человек.

Куда девались эти люди? Для ответа можно посмотреть в другую графу. Оказывается, из почти 43 тысяч выявленных за январь—август преступников около 18 тысяч нигде на работали и не учились. Были безработными? Нет, утверждает официальная статистика: безработные — это те, кто официально состоит на учете в государственной службе занятости.

Весь секрет, таким образом, состоит в методике подсчета. Поэтому мы вновь возьмем за основу другой официальный показатель. Из каждых десяти зарегистрированных преступлений у нас раскрывается семь, следовательно, число преступников-безработных за 8 месяцев никак не может быть меньше 25 тысяч человек. Но с учетом того, что далеко не каждое преступление попадает в поле зрения карающих органов, а порой его ввиду бесперспективности для расследования просто не регистрируют, число правонарушителей, а в их числе и безработных, возрастает еще больше.

Таким образом, среди выявленных и ускользнувших от правосудия преступников ежегодно насчитывается около 40 тысяч безработных, которые не учитываются официальной статистикой. И «трудоустраиваются» они в основном без помощи службы занятости. И только если эти тысячи, а также великое множество тех, кто не имеет регулярной работы, но преступлений не совершает, сложить с показателями госслужбы, можно получить объективные данные о количестве безработных. Возможно это будет 500, а может и 700 тысяч.

Поэтому официальные цифры, которыми гордятся белорусские власти, иначе как лукавыми не назовешь. Они служат не столько целям учета и контроля, для чего и организуется статистический учет, сколько целям политической пропаганды. Как это было и в советские времена.

# Экс-реформаторы пророчат катастрофу

**Анатолий ЧУБАЙС**



В интервью газете «Московский комсомолец» председатель правления РАО ЕЭС Анатолий Чубайс заявил, что если Россия не получит очередной транш кредита МВФ и правительство выполнит в сентябре свои обязательства по внешнему долгу за счет резервов Центробанка, начав одновременно денежную эмиссию, наступит *«государственная катастрофа, по сравнению с которой август покажется детскими играми»*. В случае, если Россия не договорится об очередном транше МВФ, на валютном рынке *«начнется незамедлительная атака на рубль»*, заявил он. Эмиссия рубля, по его словам, будет действовать *«так же, как бензин, который подливают в огонь, — рублей станет очень много, долларов совсем мало»*. В результате в течение двух-трех месяцев валютные резервы России *«станут равны нулю»*.

**Егор ГАЙДАР**



Лидер партии «Демократический выбор России» Егор Гайдар в интервью французской газете «Либерасьон» заявил, что *«значительная часть деморализованного российского общества ждет диктатора, который железной рукой восстановит порядок и вернет страну в рыночный рай»*. Прогнозируя возможное развитие ситуации, Гайдар предпологает, что, скорее всего, Россия *«вернется к промежуточному состоянию, когда социалистические методы управления уже не работали, а рыночные механизмы еще созданы не были»*, как это было в Польше в 1989 году и в России в 1990-1991 годах. Правительство Примакова Гайдар охарактеризовал как *«правительство левых, коммунистов, которое опирается на левое большинство Думы и будет находиться под его влиянием»*.

**Борис НЕМЦОВ**



Бывший вице-премьер правительства РФ Борис Немцов уверен, что реализация программы выхода из кризиса, разработанной отделением экономики Российской академии наук (РАН), *«приведет страну к катастрофе»*. Если премьер-министр РФ Е.Примаков *«будет и дальше пользоваться советами советских академиков, ничего, кроме несчастья, это России не принесет»*, сказал Немцов в интервью агентству «Интерфакс». По информации Б.Немцова, *«вопрос денежной эмиссии уже решен»*. На сегодняшний день *«в бюджет поступило всего 5 млрд. рублей, то есть с учетом 50-процентной инфляции и девальвации практически ничего не собрано»*. Поэтому, как заметил Б.Немцов, правительство будет *«вынуждено печатать деньги»*. Он не исключил, что в ближайшее время инфляция может возрасти *«до 30-40% в месяц»*.

# Кто есть who

**Наука этнопсихология изучает характеры отдельных народов, их «среду обитания» с целью дать психологический портрет нации.**



Правда, к ее выводам следует относиться с определенной осторожностью и не абсолютизировать их, помня, что любая нация состоит из отдельных индивидуумов, поведение которых может начисто опровергать академические выводы. Тем не менее этнопсихология накопила много интересных, любопытных, а порой просто забавных наблюдений. Например — как сами европейцы смотрят друг на друга.

**Англичане**, например, сдержанны в еде (знаменитая английская овсянка с апельсиновым соком по утрам!), скромно одеваются, консервативны во взглядах. Им свойственно высокое чувство общественного долга и своеобразный парадоксальный юмор.

**Итальянцы** — публика шумная, взрывная и... музыкальная, хотя, как выяснилось, в оперных ариях они понимают лишь каждое двадцатое слово. Глубоко почитая семейные устои, они в то же время обеспечили себе славу опытных соблазнителей и любовников.

**Французы** имеют сомнительную репутацию шовинистов. В то же время они по праву считаются прекрасными кулинарами и виноделами, мастерами моды и исключительно свободомыслящим народом. Соперничают за славу лучших любовников с итальянцами, которые, говорят, не так хороши в постели, как пытаются убедить в этом мир.

**Немцы** пользуются уважением за организованность и дисциплинированность. Их принято считать также романтиками и мечтателями. Любят хорошо поесть, выпить невероятное количество пива. Отличные работники и честные, надежные деловые партнеры.

В графе «латинский любовник» **испанцы** занимают первое место, обладая реноме натур страстных и горячих. С точки зрения европейцев, они очень эмоциональны, склонны к авантюрам и жестоко относятся к животным (коррида!).

Скандинавы. **Шведы** — нация людей гордых, самовлюбленных, неуступчивых во взглядах, но в то же время весьма раскрепощенных в поведении. Горячие патриоты, труженики, истовые защитники окружающей среды.

Менее известны характеристики **норвежцев** и **финнов**. Их отличительная черта — честность плюс известная необщительность.

Любопытными наблюдениями поделились менеджеры, которые продвигают памперсы «Хаггис».

Самой большой чистоплотностью отличаются **чехи** и **венгры**, которые моются чаще всего; менее всего уделяют внимание гигиеническим процедурам **ирландцы**.

Больше всего любят поваляться в постели **испанцы** и **ирландцы**. А вот 46,8% чехов и 42,7% венгров встают уже в шесть утра. **Греки** не любят чистить зубы.

Больше всего болтают по телефону **швейцарцы**.

Послеобеденный сон по душе больше всего датчанам — 42,3% из них уделяют ему время. А вот среди испанцев, как ни странно, всего 21,8% любителей послеобеденной сиесты.

**Американцы** с их неистребимой склонностью к статистике накопили массу интереснейших сведений о своих согражданах. Вот лишь часть любопытных оценок быта средних американцев.

49% из них хотят дожить до ста лет.

47% убеждены, что расцвет сил мужчины приходится на промежуток от 30 до 40 лет.

Несмотря на распространенное представление, услугами «Макдональдса» пользуются лишь 5% американцев.

Пешком на работу ходят 6%.

20% американцев — типичные «совы»: пик их работоспособности приходится на время после полуночи, а 9% спят больше девяти часов.

Хотя Америка — родина рок-музыки, 38% американцев терпеть ее не могут.

14% придерживаются режима питания, при котором надо есть часто, но помалу, однако худых среди американцев — всего 18%.

23% из них имеют кошку, а 39% — собаку.

На природе предпочитают заниматься сексом всего 19% американцев.

Америка ведет неотступную борьбу с курением, но продолжают курить 30% американцев.

Несмотря на киностандарты, Америка — страна сравнительно невысоких людей: каждый второй мужчина имеет рост ниже 175 см.

Доступность порнофильмов и печатной продукции такого рода не очень сказалась на нравственности мужской половины Америки: 66% из них верят в любовь с первого взгляда, хотя 69% хотят получать от жизни максимум удовольствий.

79% американских мужчин считают необходимым присутствовать в родильном доме, когда жена рожает, а девяносто девять из ста американок хотят получить возможность что-то изменить в своей внешности.

**Илан ПОЛОЦК**

# Даты і лёсы

## *29 верасня*

**61 да нашай эры.** Рымляне на чале з Пампеем, які святкаваў у той дзень свой 45-гадовы юбілей, заваявалі святы горад Ерусалім.

**1518.** Нарадзіўся выбітны італьянскі мастак, лідэр венецыянскай школы маньерызму Якопа Цінтарэта, які стварыў найбуйнейшае ў свеце жывапіснае палатно «Рай» (22х7 м) з сотнямі персанажаў у неверагодна складаных паставах і ракурсах.



**1758.** Нарадзіўся нацыянальны брытанскі герой адмірал Гарацый Нэльсан, пад кіраўніцтвам якога англічане разграмілі марскія сілы Даніі, Іспаніі і Францыі. Калі Нэльсан загінуў у Трафальгарскай бітве, ягонае цела «закансервавалі» ў бочцы з ромам і даставілі для ўрачыстага пахавання ў Лондан.

**1823.** У Любанскім раёне нарадзіўся класік беларускай і польскай літаратуры Уладзіслаў Сыракомля, аўтар шматлікіх вершаў і гістарычных твораў.

**1941.** Фашысцкія зондэркаманды пачалі знішчэнне габрэяў у мястэчку Бабін Яр пад Кіевам. У першы дзень было забіта 3.721 чалавек, а ўсяго — больш за 200 тысяч.

**1943.** Нарадзіўся лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру, былы лідэр «Салідарнасці» і прэзідэнт Польшчы Лех Валенса.

**1950.** Амерыканская кампанія *Bell Telephone* пачала выпуск першых тэлефонных аўтаадказчыкаў.

**1958.** Нарадзіўся беларускі пісьменнік і кнігавыдавец Адам Глобус.

**1973.** Француз Анры Раштэн усталяваў рэкорд у працягласці балансавання на дроце: ён пражыў 185 дзён на вышыні 25 м над супермаркетам у Сент-Эцьене. Медыкаў асабліва ўразіла ягоная здольнасць спаць на дроце.

**1988.** ЗША, Канада, Японія і 9 заходнееўрапейскіх дзяржаваў падпісалі ў Вашынгтоне дамову пра будаўніцтва і эксплуатацыю міжнароднай пілатуемай касмічнай станцыі. Праект коштам у 23,6 млрд. долараў мяркуецца ажыццявіць напрыканцы стагоддзя.

## *30 верасня*

**1728.** Нарадзіўся першы беларускі астраном Марцін Пачобут-Адляніцкі.

**1773.** Сойм Рэчы Паспалітай ратыфікаваў трактат пра першы падзел дзяржавы паміж суседзямі (паводле яго Расія захапіла тэрыторыю ВКЛ да Дзвіны і Дняпра). Выбары паслоў (дэпутатаў) сойма адбываліся пад кантролем расійскага войска, таму супраць падзелу не галасаваў амаль ніхто, апрача навагрудскага пасла Тадэвуша Рэйтана ды яшчэ некалькіх патрыётаў.

**1846.** У амерыканскім горадзе Чарльстане (штат Масачусетс) доктар Мортан упершыню вырваў зуб з выкарыстаннем анестэзіі — эфіру.

**1938.** Гітлер, Мусаліні, Даладзье і Чэмберлен падпісалі ў Мюнхене дамову пра падзел Чэхаславакіі. Германіі было дазволена анэксаваць частку Чэхіі, населеную пераважна немцамі, але нагодай скарысталіся і іншыя суседзі: Польшча ў кастрычніку захапіла памежны чэшскі г.Цешын і ваколіцы, а Венгрыя ў лістападзе — палову Славакіі. Гітлер і Чэмберлен у той жа дзень падпісалі асобны пакт пра ненапад паміж Германіяй і Вялікабрытаніяй.

**1943.** Быў заснаваны Беларускі дзяржаўны музей Вялікай Айчыннай вайны.

**1980.** Ізраіль увёў новыя грошы: на змену фунту прыйшоў шэкель.

**1995.** На агульным з'ездзе Грамадзянскай і Аб'яднанай дэмакратычнай партыяў была створаная Аб'яднаная грамадзянская партыя на чале з Станіславам Багданкевічам.

## *1 кастрычніка*

**1869.** У Вене выпусцілі першыя ў свеце паштоўкі.

**1881.** Нарадзіўся амерыканскі авіяканструктар Ўільям Боінг.

**1903.** Пачаўся транскантынентальны рух цягнікоў: чыгункі Расійскай імперыі злучыліся з еўрапейскімі.

**1908.** Заводы Форда пачалі выпуск знакамітай мадэлі «Т» — найбольш папулярнага ў свеце (да з'яўлення ў 1960-х «жука» фірмы *Volkswagen*) таннага аўтамабіля. Дарэчы, Форт-Т быў першай машынай, размалёўвалі на левабаковы рух.

**1918.** У Мінску адчынілася каталіцкая духоўная семінарыя.

**1928.** У Беларусі нарадзіўся вядомы ў Англіі і ЗША драматычны і кінаакцёр Лоўрэнс Харвей (Лаўрушка Міша Скікін).

**1931.** У СССР пачаліся рэгулярныя тэлеперадачы.

**1938.** Германскія войскі пачалі акупацыю (па словах Гітлера — «вызваленне») Судэцкай вобласці ў Чэхаславакіі.

**1948.** Адчыніўся Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моваў (цяпер Дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт). Дарэчы, ледзь не адзіная ВНУ у былым СССР, студэнты якой здолелі звергнуць (у 1990 г.) нялюбага рэктара.

**1988.** Міхаіл Гарбачоў быў абраны Старшынёй Вярхоўнага Савета СССР.

**1993.** «Выконваючы абавязкі прэзідэнта Расіі» Аляксандр Руцкой запрасіў журналістаў на прэс-канферэнцыю ў ачэпленым міліцыяй Белым доме і паабяцаў, што Вярхоўны Савет будзе змагацца з Ельцыным да канца. Выступаў у турэцкім спартовым касцюме, бронекамізэльцы і з аўтаматам у руках, паскардзіўся на ўвесь свет, што ачапленне АМАП не прапускае ад жонкі перадачу *«з чыстымі шкарпэткамі і майткамі»*. Генерал А.Лебедзь назваў гэта ўсё трызненнем: *«Руцкой павінен быў узняцца на верхні паверх, зрабіць адпаведны жэст і застацца афіцэрам. З дурнямі справаў не меў, не маю і мець не збіраюся»*.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# Рука змяніла гаспадара

**Французскія хірургі сцвярджаюць, што паспяхова ажыццявілі першую ў гісторыі чалавецтва трансплантацыю рукі.**

Прышылі руку 45-гадоваму аўстралійцу Клінту Халману, які страціў сваю канечнасць яшчэ 14 гадоў таму ў выніку няшчаснага выпадка. Донарскую руку ўзялі ў чалавека, які загінуў. Аперацыя доўжылася 13 гадзінаў, яе праводзілі ў клініцы г.Ліёна аўстралійскі прафесар і французскі хірург. Ці зможа пацыент шавяліць прышытай рукой — будзе ясна не раней, чым праз месяц.

# Моніка, раскажы!

**Брытанскі эратычны канал кабельнага тэлебачання «Фантазія» прапанаваў Моніцы Левінскі мільён долараў за шчыры расповяд пра інтымныя дэталі яе рамана з прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам.**

Моніцы прапануецца ўдзельнічаць у падрыхтоўцы 6-серыйнага фільма з рабочай назвай «Дасье Клінтана». Плануецца дэталёва адлюстраваць усе падрабязнасці расследавання справы «Клінтан—Левінскі».

# Какаін на доляры

**Грунтоўныя хімічныя аналізы паказалі, што сярод аднадоларавых купюраў, якія маюць абарачэнне ў амерыканскім горадзе Маямі, на 78 працэнтах ёсць сляды какаіну.**

На асобных доларах колькасць наркотыка даходзіць да міліграма. Прычына гэтага — мода сярод мясцовых наркаманаў нюхаць какаін, папярэдне высыпаючы яго на доларавую паперку.

# Прыправы – не толькі для смаку

**Біёлаг Пол Шэрман і ягоныя калегі з Карнэльскага універсітэта прааналізавалі выкарыстанне вострых прыправаў у 4.164 рэцэптах традыцыйных мясных страваў з 31 краіны свету.**

Самымі распаўсюджанымі аказаліся цыбуля, чорны, белы і чырвоны перац, часнок, лімонны сок і імбір. Праверка ўздзеяння гэтых прыправаў на бактэрыі паказала, што гваздзіка, цыбуля, часнок і душыца забіваюць усе мікраарганізмы, уключаючы сальманэлы і стафілакокі (нездарма гваздзічны алей ужываецца ў стаматалогіі, калі трэба дэзінфікаваць карыесныя поласці). Пякучы чырвоны перац знішчае не менш за 75 працэнтаў мікробаў. Акрамя гэтага, даследаванне паказала, што ў краінах з цёплым кліматам (дзе прадукты хутчэй псуюцца без халадзільніка) традыцыйная кухня ўжывае разнастайныя спецыі значна больш, чым у паўночных краях. Такую заканамернасць заўважалі і раней, але цяпер зразумела, што справа не толькі ў тэмпераменце гарачых паўднёвых народаў.

*Па матэрыялах замежнай прэсы.*

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1300 Нумар падпісаны ў друк 28/09/98 (15:30) Наклад — 22 830.